# Апякунка Беларусі

Кажны народ, які не абмяжоўваецца адно чыста матар'яльным жыцьцём, але імкнецца й да духовае дасканаласьці, — верыць у Бога й Ягоную справядлівую, хай мо' й не заўсёды зразумелую для нас, апеку. I кажны народ хацеў-бы мець свайго апякуна й заступніка перад Божым пасадам. Верацъ у заступніцтва сваіх нябесных апякуноў і нашыя суседзі ўкраінцы, расейцы, палякі. Маюць іх усе іншыя хрысьціянскія народы. I мае, праўда не апякуна, а заступніцу-апякунку й наш беларускі народ. Пятага чырвена (29-га траўня паводле старога стылю) беларуская Царква, як праваслаўная, так і каталіцкая сьвяткуюць дзень свае Апякункі сьвятое Еўфрасіньні — Прадславы Полацкае, вялікае асьветніцы й культурнае дзеячкі свайго часу.

Сьвятая Еўфрасіньня, у жыцьці княжна Прадслава, была ўнучкаю славутага Полацкага князя Усяслава Чарадзея. Выхаваная ў раскошы княжага двару, прыгожая й нязвычайна здольная, яна ад дзіцяці зраджвала нязломную волю ахвяраваць усё гэтае Богу й свайму народу. Навучыўшыся ўсяму, што ў тыя часы магла здабыць дзяўчына, хай і княжага роду, абкружаная славаю й каханьнем, княжна Прадслава наважыла кінуць мітусьлівы, радасны сьвет і замкнуць сваё маладое жыцьцё ў мурох ціхога, змрочнага манастыру, дзе-б яна магла ў супакоі, удосыць працаваць і маліцца. Ніякія перашкоды не палохалі Яе. Аднае ціхое раніцы, калі ўсё яшчэ спала ў княжым палацы, маладзенькая Прадслава (ей было тады 12 год) пакінула сваю дзявочую сьвятлічку, уцякаючы ў манастыр сьв. Спаса, дзе Ейная цетка была ігуменяй, ды тут і засталася на ўсё жыцьцё, прыняўшы імя сястры Еўфрасіньні.

Дарма, што такая маладзенькая, Еўфрасіньня-Прадслава як мала хто ў тыя часы разумела вялізарную ролю навукі й асьветы ў жыцьці народу. Шчыра й горача кахаючы свой край, Яна наважыла асьвеціць яго, даць яму навуку. I вось, дзень па дні й год па годзе, замкнуўшыся ў маленькай змрочнай келяйцы, яна ўся аддалася гэтай сьціплай, цярплівай працы, перапісваючы й перакладаючы на родную мову дарагія кнігі, якія ў тыя часы можна было із вялікімі цяжкасьцямі дастаць з Візантыі ці Заходу.

Сьвятое, працавітае жыцьцё маладое божае служкі здабыло Ей у хуткім часе любоў усяго манастыру й краю. Пасьля сьмерці цёткі, Яна стаецца ігуменяй Сьвята Спасаўскага манастыру. Аднак, каб здабыць лепшую асьвету, Яна неўзабаве перасяляецца ў Сьвята-Сафійскую Царкву, дзе была вялікая бібліятэка й там вучыцца й працуе з усё большай наважанасьцяй і прагай. Зь Ейнаю дапамогаю і за Ейным прыкладам па ўсёй Полаччыне пачынаюць закладацца ўсьцяж новыя манастыры, бібліятэкі й школы, а пры іх прытулкі для сіратаў, бедных, старых і хворых. I хутка слава аб княжне-манашцы, асьветніцы роднага краю пачынае сягаць ня толькі у найбольш глухія куткі бацькаўшчыны, але й далека за ейныя межы.



Сьв. Еўфрасіньня-Прадслава Полацкая, Апякунка Беларусі.

Славу гэтую Сьв. Еўфрасіньня заўдзячвае ня толькі сваёй упорыстай працы, але й вельмі своеасабліваму, нязвычайнаму як на тыя часы зразуменьню ролі асьветы ў жыцьці народаў. Яна першая зразумела, што да чужое асьветы й чужое мовы, хай найбагацейшае ці найпрыгажэйшае, народ ніколі ня прыхіліцца сваёю ахвотай і што толькі роднае слова знаходзіць дарогу ў людзкое сэрца. Таму, чэрпаючы з крыніцы агульна-хрысьціянскіх здабыткаў, яна ня ганіла, не адкідала, як паганскае, нічога свайго, роднага. Якраз на аснове гэтага роднага будавала й разьвівала Яна хрысьціянскую культуру на роднай Полаччыне. Так была, напр. пабудаваная царква Сьв. Спаса, дзе спалучаныя тэхніка візантыйскіх муляроў із прыгаством тагачаснага беларускага народнага будаўніцтва, гэтак былі пісаныя тагачасныя сьвятыя абразы, у якіх так удала старабеларускае мастацтва лучыцца із духам хрысьціянскага малярства. Гэтак быў створаны полацкім мастаком Лазарам Богшаю й славуты крыж Сьв. Еўфрасіньні-Прадславы, найпрыгажэйшая хрысьціянская памятка тагачаснага беларускага мастацтва.

Вялікі дабрадзейны ўплыў мела Сьв. Еўфросіньня й на ўсе іншыя праявы жыцьця ў родным краі. Пад гэтым Ейным уплывам палагоджваліся спрэчкі й непаразуменьні і на княжым двары, і паміж бедных і багатых. Пад Ейным уплывам суцішалася варожасьць між Усходняю й Заходняю Цэрквамі, што пачала разгарацца за межамі нашае зямлі (у нас яе ня было зусім). Дзякуючы Ейнаму ўплыву слава й значаньне роднага краю шырылася па сьвеце.

I ці дзіва, што калі гэтая Княгіня Крывіччыны (**Regina Crivitiae**) як звалі Сьв. Еўфрасіньню чужынцы, чуючы, што здароўе й сілы пакідаюць Яе, наважыла наведаць перад сьмерцяй Сьвятую Зямлю, — уся Беларусь плакала гаркімі сьлязьмі, просячы сваю Асьветніцу й Апякунку не пакідаць яе, застацца да канца із сваім краем і народам?

Верым, што Яна із намі, што не пакінула нас і мы сяньня. Верым, што прыйдзе нарэшце той час, калі вымаліць Яна для свае й нашае Бацькаўшчыны і народу лепшыя часы й лепшую долю. А пакуль гэта станецца, старайма́ся быць як Яна, нашая Сьв. Апякунка: забудземся сваркаў, задзіночымся ў цярплівай, сьціплай працы для роднага краю і верма, што мы не адны, што сочыць за намі й дапамагае нам у кажным нашым добрым пачынаньні Заступніца Беларусі — Сьвятая Еўфрасіньня-Прадслава Полацкая.

А. К.

Юрка Віцьбіч

# Крыж сьв. Еўфрасіньні-Прадславы

Калі ўспамінаем мінулае нашай Беларусі, адразу ўстаюць у памяці з імглы вякоў дзьве славутыя жанчыны — княгіня Рагнеда і князёўна Прадслава. На першы погляд паміж імі няма нічога супольнага. Сапраўды, як нельга ўявіць сабе гордую Рагнеду без мяча, таксама нельга ўявіць сабе сьціплую Прадславу бяз крыжа. Але-ж і меч Рагнеды і крыж Прадславы былі магутнай фізычнай і духовай зброяй, якая злучала нашую радзіму ў адзін суцэльны маналіт. Іхныя патрыятычныя пачуцьці знайшлі яскравае ўвасабленьне ў старым рыцарскім клічу: „мячом і крыжам".

Таму і сяньня, кажнаму ваяўнічаму і разам з тым глыбака чалавечнаму беларускаму сэрцу, шмат што гаворыць — і меч Рагнеды і крыж Прадславы.

У стольным Полацку, на беразе гістарычнай Палаты, знаходзіцца вядомы па ўсёй Беларусі Спаса — Эўфрасіньнеўскі манастыр. Яшчэ здалёк было відаць ягоную старажытную царкву Найміласьцівейшага Спаса, зруйнаваную цалкам у часе апошняе вайны. У царкве, з правага боку хораў, можна дагэтуль бачыць маленькую келью з вузенькімі вокнамі ў масіўных мурох. Тут, 800 год таму, праводзіла ўвесь час за малітвай і працай сьвятая Эўфрасіньня, або князёўна Прадслава, унучка славутага князя Усяслава Чарадзея. I тут-жа, на працягу многіх вякоў, ляжаў для агульнага ўсхваленьня яе запаветны крыж.



Крыж сьв. Еўфрасіньні — твор Лазара Богшы.

Гэты крыж быў упрыгожаны золатам і срэбрам, буйнымі пэрламі й бліскучымі брылянтамі. На ім знаходзілася мноства вельмі зграбна зробленых аздобаў і дваццаць маленькіх абразкоў, выкананых перагародчатай эмаляй, якая зьяўлялася найвышэйшым дасягненьнем тагачаснага мастацтва. Паказальна, што абраз Збавіцеля і нават пальцы Ягонай рукі складзеныя з дробных каштоўных каменьчыкаў. Пад кажным абразком былі грэцкія й славянскія надпісы. А ўсе яны, разам узятыя, вычарпальна адлюстроўвалі гісторыю Новага Запавету і першабытнае царквы.

З надпісу на крыжы відаць, што ягоныя аздобы каштавалі 100 грыўняў, або ў пераліча́ньні на валюту 1914 г., — 1400 рублёў. I ўсё-ж ня ў золаце і брылянтах галоўная каштоўнасьць крыжу Эўфрасіньні - Прадславы. У ім знаходзяцца бясцэнныя для кажнага хрысьціяніна сьвятыні, прывезеныя сьвятой Эўфрасіньняй з Усходу. З правага боку — кропля Хрыстовае крыві і частка Крыжу Гасподняга, а з левага боку — частка каменьня ад Труны Гасподняй і частка каменьня ад Труны Божае Маці.

Калі бачыш гэты высакамастацкі крыж, мімаволі думаецца: Ці не зьяўляецца ён падарункам для княгіні Еўфрасіньні ад ейных блізкіх сваякоў — бізантыйскіх імпэратараў, і ці ня зроблены ён нейкім невядомым канстантынапальскім мастаком? Але з дробнага й сьціплага надпісу на крыжы:

„Госпадзі, памазі рабу свайму Лазару, названаму Богшы, які зрабіў крыж сей царкве Сьвятого Спаса і Еўфрасіньні".,

мы даведваемся, што ён паходзіць не з Візантыі, а з Полацку. Яго стварыў у 1161 г. выдатны беларускі мастак XII стагодзьдзя Лазар Богша.

На працягу чатырох вякоў знаходзіўся крыж Эўфрасіньні ў ейным манастыры. Напярэдадні захопу Полацку Іванам Грозным манахіні перанесьлі яго ў Сафіеўскі сабор. У 1596 г. гэты сабор перайшоў да вуніятаў і крыж быў у іх да 1841 г., калі яго зноў урачыста перанесьлі ў Спаса - Еўфрасінеўскі манастыр.

Штогод сюды ў манастыр сыходзіліся тысячы багамольцаў з розных куткоў Беларусі, каб пакланіцца сьмяротным рэшткам сьвятое Еўфрасіньні і ейнаму крыжу. У часе набажэнства ў прачулых стыхірох манахіні сьпявалі:

„Веселися обитель Спасова,
сьветло торжэствуй зямля По-
[лацкая".

Блізу ў кажнай беларускай хаце можна было бачыць абраз Сьвятой, на якім яна трымала ў аднэй руцэ лялею, а ў другой — свой крыж.

Зьнікнуў крыж Прадславы або каралевы Крывіччыны, як завецца яна ў рымскіх памятках. Але ўсё адно мы носім у сваіх душах і меч Рагнеды, і крыж Прадславы. Ніякая чорная моц ня здолее вырваць іх адтуль. I ўсім сэрцам сваім мы адчуваем, што моліцца за наш шматпакутны беларускі народ сьвятая Еўфрасіньня, князёўна Полацкая — ягоная нябесная заступніца, ягоная незгасальная лямпада перад Пасадам Найвышэйшага Бога.

1946 г.

кім кампазытарам пашчасьціла й тут мець удачу. Цікоцкі напісаў і паставіў опэру „Алеся", а кампазытар Пукст праславіўся сваёю песьняй „Партызанская" (за якую нават атрымаў ордэн Леніна). Справа ясная, што гэтыя дасягненьні ваеннага часу тлумачацца адно уплывамі партызанскае тэматыкі, якая была заўсёды найбольш блізкою, зразумелаю й прывабнаю з усіх галінаў савецкае палітычнае творчасьці, асабліва для рамантычнае душы беларуса, які на працягу стольскіх год змагаўся й паўставаў супроць розных сваіх прыгнятальнікаў.

Але вайна нарэшце скончылася. Саветы выйшлі зь яе пераможцамі. Здавалася-б слалася роўная дарога да новых творчых удачаў. Але дзе там!

Саюз савецкіх беларускіх кампазытараў у часе вайны і ў пасьляваенныя гады прынёс у ахвяру ваеннай завірусе шмат сваіх сяброў. Выехалі на эміграцыю два старэйшыя кампазытары М. Шчаглоў і М. Равенскі, здольныя музыказнаўцы А. Карповіч і Э. Пэльман. Загінуў кампазытар Крошнер. Бяз сьледу, таямніча, як гэта заўсёды бывае ў Саветах, зьніклі з Беларусі кампазытары Туранкоў, Самохін ды Іваноў. Яны не пакінулі Менску, а пасьля адыходу немцаў засталіся на Беларусі, паверыўшы ўгаворам савецкіх партызанаў, што намаўлялі іх астацца, абяцаючы „залатыя горы", аб чым ведае шмат хто з нас. Прозьвішчы гэтых лёгкаверных ад часу заняцьця Беларусі чырвонымі аддзеламі ў 1944 годзе нідзе больш не ўспаміналіся, быццам выкрэсьленыя нечай рукой із сьпісаў і сяньня і яны й іхныя творы забытыя. Дзе яны? Што ізь імі? Ці-ж трэба пытацца? Тыя, хто сам скаштаваў савецкае сапраўднасьці, могуць лёгка здагадацца, што ўсе яны трапілі ў „месцы ня столь аддалённыя" і ў цяжкіх пакутах „адрабляюць" свае віны перад Радзімай. Ці выжыве й выплыве хто зь іх яшчэ калі, — сказаць цяжка.

У савецкай прэсе апошняга часу таксама чамусьці ня сустракаецца больш прозьвішча кампазытара Пукста. Што ізь ім? Ці мо' й на яго грымнула кара за сястру (ведамую шмат каму з нас сьпявачку, што працавала пры немцах у Менскім тэатры)? Даводзіцца дзівіцца й таму, што і маладзейшае пакаленьне маўчыць. Нічога ня чуваць аб творчасьці Багатырова, Падкавырава... Прабаваў быў напісаць опэру кампазытар Д. Лукас, але на зьезьдзе кампазытараў у Маскве яна ўспаміналася, як прыклад няўдалага прымітывізму (асабліва лібрэта) і творчае нясьпеласьці. Трымаюцца яшчэ й больш менш „удала" працуюць, як відаць з савецкае прэсы, толькі такія кампазытары, як Любан і Сакалоўскі. Яны нават трапілі ў новую савецкую энцыкляпэдыю — справа таксама ня ясная, бо паважнага значаньня гэтыя тэхнічна слабыя аўтары ніколі ня мелі й мець ня могуць. Відаць, што іхныя прозьвішчы скарыстаныя адно дзеля прапаганды.

Савецкая крытыка тлумачыць прычыну творчае прастрацыі беларускіх савецкіх кампазытараў „не дастатковай палітычнай і ідэалягічнай сьведамасьцяй, адарванасьцяй ад шырокіх масаў савецкага грамадзтва". Гэтак у трыццаць пятым годзе бальшавіцкае рэвалюцыі мастакоў абвінавачваюць у тых самых грахох, што і ў першым!

У ваенныя гады 1941-45 савецкія людзі марылі аб палепшаньні жыцьця й верылі абяцянкам, але ніякіх зьменаў не дачакаліся. Усё ўвайшло ў старую норму. Творчыя прафэсіі, мастакі мусілі ізноў шукаць натхненьне ў **„радаснай савецкай рэчаіснасьці",** захапляцца гэніяльнасьцяй правадыра і „размахам сацыялістычнага будаўніцтва, а гэтыя рэчы якраз ніяк ня ўцісьнеш у сапраўднае мастацтва. Беларуская нацыянальная тэматыка й форма адыйшлі ізноў на такі далёкі плян, што іх ледзь, наагул, відаць. Яны сяньня адно сарамяжлівы лісточак, што прыкрывае схудзелое цела беларускае сацыялістычнае рэспублікі, якой на паперы дазволенае ўсе, а па праўдзе нічога, апрача голаду й пакутаў. Пісаць беларускія рэчы ізноў сталася небясьпечным. Ледзь, ледзь захапіўся, перабраў меру ў беларускім „арламэньцы" — глядзіш, і ў „нацдэмы" трапіў!

Каб падштурхнуць кампазытарскае натхненьне на стварэньне „савецкага гэроя" на сацыялістычныя заказы беларускім кампазытарам дзяржава асыгнуе даволі вялікія грошы, прыкладам да 200.000 рублёў штогод. Раўнуючы да жабрачых заработкаў радавых працоўных і служачых ганарар кампазытараў ці аднаму выдасца раскошаю й багацьцем... Але Маскоўская брыгада, што наведала Менск, у выніках сьцьвярджае: „буйныя сродкі, што адпускаюцца дзяржаваю на заказы беларускім кампазытарам з году ў год не **выкарыстоўваюцца,** з тае толькі прычыны, што кампазытары пішуць вельмі мала". I гэта нязвычайна паважнае й шчырае прызнаньне. Трэба аддаць належную пашану беларускім савецкім кампазытарам, якіх, як відаць з усяго, ня купіш на'т вялікімі грашыма й якія згодліся лепш жыць у нястачы, чымся пяяць аб правадыру й савецкай „гэроіцы".

Можна пацешыць беларускіх кампазытараў адным, што ў такім палажэньні апынуліся ня толькі яны. Партыйныя й савецкія газэты й часапісы крычаць аб тым самым заняпадзе ў ўсіх нацыянальных рэспубліках. Нават „вядучая братняя арганізацыя вялікіх рускіх кампазытараў" трапіла ў сьпіс тых, што „пацярпелі паразу на творчым музычным фроньце". I яны, як кажа газэта „Праўда", „ня выканалі свае задачу перад партыяй, т. Сталіным і савецкім народам". Ні ані пагрозы, ані абяцанкі, ані грошы не дапамаглі.

Кажнаму ясна, што крызыс савецкае музыкі наагул, а беларускай у асобнасьці, мае глыбейшую прычыну, чымся недастатковая палітычная ды ідэалягічная сьведамасьць кампазытараў. Гэтую прычыну ведаюць і партыйнае й савецкае кіраўніцтвы, але ня могуць нават ціханька, на вуха сказаць аб ёй, каб не страсянуць усёй сваёй камуністычнай лабудовай. Прычына гэтая — **адсутнасьць свабоды творчасьці.** Мастацтва можа разьвівацца толькі тады, калі мастак можа тварыць, што ён хоча, што зараджаецца ў ягоных думках, народзіцца ў ягоным сэрцы. Савецкая-ж сапраўднасьць паставіла мастакоў у сурогую залежнасьць ад партыйнае ідэалёгіі. Тэма, плян, форма твору або ўжо загадзя прадпісаныя яму, або ўзгодненыя з партыйным кіраўніцтвам. Падаем як прыклад колькі тэмаў, паданых на сацыялістычныя заказы беларускім кампазытарам: „Як беларускі цёмны селянін перакаваўся ў сьведамага й сталёвага бальшавіка", „Машына - трактарныя станцыі на калгаснай зямлі", „Сталін — наша сонца", „Я — савецкі чалавек", і г. д. Што-ж пачнеш? Беларускія мастакі спрабавалі пісаць на гэтыя тэмы і опэры, і сымфоніі й камэрныя рэчы, ды як дагэтуль, нічога ім не ўдалося, бо тэмы гэтыя чужыя музыцы й ня будзяць творчае сэрца. Яшчэ горш. За кажным крокам савецкага мастака пільна сочыць партыйнае кіраўніцтва. Газэта „Праўда", пастановы партыйных і савецкіх арганізацыяў, крытыка, грамадзкія перагляды й пераслухоўваньні — усё гэтае цісьне на думку кампазытара, накідае яму сваю волю, пагражае карамі й вяжа мастака па руках і нагах.

А ў сьведамых кампазытараў нацыянальных рэспублікаў думкі й сэрца усё-ж імкнуцца да ідэалаў волі, самастойнасьці, незалежнасьці свае бацькаўшчыны. Што-ж могуць яны стварыць, калі бальшавіцкая ўлада адняла ў іх самае каштоўнае й сьвятое — быць вернымі сынамі свайго народу?

